Выдаецца з 16 студзеня 1998 г.
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец — рэдакцыя газеты НАВІНЫ
Наклад 22 410.
Адрас для карэспандэнцыі:
220088, г.Мінск,вул. Іванаўская, 56.
Тэл/факс: 236 2083

# НАВІНЫ



Пятніца, 21 жніўня 1998 г. № 87 Кошт свабодны

СВАБОДА
Забаронена 24 лістапада 1997 г.

## Камбайнеры забаставалі

**У самы разгар жніва забаставалі камбайнеры аднаго з калгасаў Івацэвіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Гэтым механізатарам не выплачвалі зарплату ўжо тры месяцы.**

Замест таго, каб ехаць у поле, камбайнеры сабраліся на цэнтральнай сядзібе калгаса «40 гадоў Кастрычніка» ў вёсцы Дабрамысль і заявілі кіраўніцтву, што не прыступяць да работы, пакуль ім не выдадуць зароблены грошы. Калгаснае кіраўніцтва спрабавала ўгаварыць механізатараў пацярпець і не зрываць «бітву за ўраджай», але безвынікова. Кіраўнікі гаспадаркі былі вымушаныя праявіць дзіўную аператыўнасць і выплаціць механізатарам у той жа дзень зарплату за травень, пасля чаго камбайнеры спынілі забастоўку.

**Язэп СІНІЦКІ**

## Місія АБСЕ наведала Гродна

**Два дні ў Гродне знаходзіліся прадстаўнікі кансультатыўна-назіральнай групы АБСЕ на чале з кіраўніком місіі Хансам-Георгам Вікам.**

Адбыліся чатыры сустрэчы: з кіраўніком аблвыканкама А.Дубко, з гарадскімі ўладамі, у Саюзе палякаў і ў Каардынацыйным камітэце грамадскіх арганізацыяў «Гродзенская ініцыятыва».

Старшыня Саюза палякаў Т.Гавін падкрэсліў, што палякі незадаволеныя тым, як улады ставяцца да іх. У прыватнасці, у Навагрудку не дазваляюць пабудаваць школу — нават за польскія грошы і нават прыватную. У час святкавання 200-х угодкаў А.Міцкевіча Саюз палякаў мае намер выставіць у Навагрудку пікет. Ужо падрыхтаваныя звароты ў гэтай справе да прэзідэнтаў трох краінаў — Польшчы, Літвы і Францыі, якія, па словах Гавіна, узначальваюць нацыянальныя камітэты па адзначэнні юбілейнай даты. Гэтая справа зацікавіла прадстаўнікоў АБСЕ.

На сустрэчы ў «Гродзенскай ініцыятыве» гаворка ішла, у прыватнасці, пра магчымыя ў наступным годзе выбары ў мясцовыя органы ўлады. Падкрэслівалася, што гэта немагчыма без свабоднага доступу да электронных *mass media* прадстаўнікоў усіх палітычных сілаў. Існуе праект дэманапалізацыі тэлебачання, якім павінна кіраваць Грамадская рада — так, як гэта робіцца ў дэмакратычных краінах, у той жа Польшчы. Кіраўнікі каардынацыйнага камітэта С.Домаш і А.Астроўскі, аднак, выказалі песімізм адносна магчымасці правядзення сумленных свабодных выбараў пры існуючай уладзе.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

## По 400 долараў кожнаму

*Яўрэям і цыганам дадуць кампенсацыю*

**Беларускі фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне» неўзабаве пачне выплату кампенсацыяў ахвярам Халакосту. Грошы паступяць са Швейцарыі.**

Да ахвяраў Халакосту адносяць яўрэяў, пацярпелых ад фашысцкага генацыду, а таксама цыганоў, якіх таксама пераследавалі з-за расавай прыналежнасці.

Сёлета фонд «Узаемаразуменне і прымірэнне» плануе зрабіць выплату 616 вязням канцлагераў (такіх, як Асвенцым, Бухенвальд, Дахау і інш.). Спіс першых прэтэндэнтаў на кампенсацыю ужо накіраваны на зацвярджэнне ў Швейцарыю. Усе яны атрымаюць пароўну — 400 амерыканскіх долараў.

Яўрэям аддадуць швейцарскія грошы праз іхнія арганізацыі. Самае складанае для фонду — падлічыць колькасць цыганоў, якія могуць прэтэндаваць на кампенсацыю.

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

## Насельніцтва сталіцы

За першае паўгоддзе насельніцтва Мінска скарацілася на 1.100 чалавек. Цяпер у сталіцы афіцыйна зарэгістравана 1 млн. 715 тыс. 600 жыхароў.



# Долар ляціць увышыню

*А беларускі рубель — невядома куды*



**На «чорным рынку» Беларусі курс продажу амерыканскага долара за наяўныя беларускія рублі дасягнуў 80 тысяч рублёў. За безнаяўныя грошы долар можна цяпер набыць па 100-120 тысяч.**

Курс змяняецца вельмі дынамічна. Глядзіце самі: у панядзелак за адзін долар давалі 68-70 тысяч рублёў, у аўторак — 70-75 тысяч, у сераду — ад 70 да 80 тысяч. Учора долар каштаваў ад 75 да 80 тысяч рублёў.

Не адставаў і курс безнаяўнага долара. На пазабіржавым рынку — пры разліках камерцыйных прадпрыемстваў паміж сабой — у панядзелак долар яшчэ каштаваў ад 83 да 92 тысяч рублёў. Але ўжо ў аўторак курс упаў да 100—110 тысяч безнаяўных рублёў за 1 долар. Учора курс долара вагаўся ад 120 да 150 тысяч.

Тым часам, у пунктах абмену валюты — ніякіх змяненняў. Прымаюць долары па 59.100. Курс продажу ўстаноўлены на мяжы 59.500, але ніякай валюты няма, ба амаль ніхто не здае.

### «Чорны рынак»

Тыя, у каго ўзнікае патрэба памяняць долары на беларускія рублі альбо наадварот, цяпер звычайна ідуць да «валютчыкаў». Тут табе ні чэргаў, ні абмежаванняў, а курс — рынкавы. Учора з раніцы, напрыклад, «валютчыкі» куплялі долары па 70 тысяч рублёў, а прадавалі па 75. Адзіная цяжкасць: па словах «валютчыкаў», у моманты рэзкага падзення курсу беларускай валюты адразу прачынаецца міліцыя — і пачынаецца паляванне на «мянялаў». Зрэшты, «валютчыкі» маюць свае спосабы, як пазбегнуць непрыемных кантактаў з праваахоўнымі органамі. Адны хаваюцца ў аўтамабілях, а іншыя проста «падмазваюць» міліцыянтаў, і тыя іх не чапаюць.

### Разгубленасць на «Дынама»

Учора на рынку стадыёна «Дынама» сярод гандляроў назіралася разгубленасць — ніхто не ведаў, па якім курсе прадаваць свае тавары. У сярэднім за адну «ўмоўную адзінку» прасілі 75 тысяч беларускіх рублёў. Аднак былі і такія, хто пагаджаўся на курс 64 тысячы. А вось гандляры аўдыё- і відэатэхнікай трымаліся на ўзроўні 80 тысяч рублёў за 1 долар — і не меней.

### Прычыны

Адной з прычынаў абвалу беларускага рубля эканамічныя аналітыкі называюць сумесную пастанову Савета міністраў і Нацыянальнага банка «Аб разліках па экспартных аперацыях», якая ўступіла ў сілу 17 жніўня. З гэтага панядзелка замежныя фірмы, купляючы ў Беларусі прадукты, тытунь, мэблю, шкло, гадзіннікі ці іншы тавар, павінны плаціць толькі валютай, а не нашымі рублямі. Таксама толькі ў валюце яны мусяць разлічвацца за аказаныя беларускімі кампаніямі банкаўскія, транспартныя, паліграфічныя і будаўнічыя паслугі. Такім чынам, вялікая колькасць беларускіх рублёў аказалася нікому не патрэбнай. А калі на грошы нельга набыць нейкі тавар — яны ператвараюцца ў простыя каляровыя паперкі, якія можна прадаваць на вагу і абклейваць імі кватэру.

Безумоўна паўплываў на беларускі рубель і крызіс расійскага фінансавага рынку. Нагадаем, што пераважная большасць беларускіх тавараў ідзе на экспарт менавіта ў Расію.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**

# Нас будуць перапісваць

*Пачалася падрыхтоўка да перапісу насельніцтва Беларусі, які будзе праводзіцца з 16 па 23 лютага 1999 года*

### 33 тысячы партфеляў

Спецыялісты міністэрства статыстыкі ўпэўненыя, што грошай на перапіс хопіць. Праўда, пакуль не называюць канкрэтную суму. У 1989 годзе на перапіс аднаго савецкага чалавека патрацілі 1 рубель. У якую капеечку вылецца гэтая працэдура цяпер — сказаць цяжка. Ясна толькі адно: нас перапішуць за нашыя грошы.

Міністэрства статыстыкі замовіла пашыць 33 тысячы скураных партфеляў для «лічыльнікаў» — тых людзей, якія будуць хадзіць па хатах і запаўняць бланкі. Усяго ж для правядзення перапісу спатрэбіцца 42 тысячы кадраў. На аднаго «лічыльніка» ў горадзе прыпадзе 350 жыхароў, а ў сельскай мясцовасці — 250. Па ўсёй краіне ўпарадкоўваецца адрасная гаспадарка, каб «лічыльнікі» не блыталіся. Калі вы заўважылі з'яўленне на сваім доме нумарнога знака ці шыльды з назвай вуліцы альбо нумарам пад'езда, то гэта азначае, што краіна рыхтуецца да перапісу.

Грошы на так званую адрасную гаспадарку ідуць з мясцовых бюджэтаў. Пакуль не з'явіліся новыя шыльды ў Мінску на вуліцы Трактарнай, дзе жыве дзяржсакратар Савета бяспекі Віктар Шэйман. У сакавіку гарадскія ўлады перайменавалі Трактарную ў вуліцу імя народнага мастака СССР Заіра Азгура. Аднак шыльду не змянілі. Далейшае перайменаванне вуліцаў у Мінску наогул прыпынена.

### Што будуць пытацца?

Перапісны ліст утрымлівае 17 блокаў пытанняў. У параўнанні з папярэднімі перапісамі тут ёсць некаторыя асаблівасці. Напрыклад, замест «роднай мовы» стаіць пытанне: «На якой мове вы звычайна размаўляеце дома». Графа «нацыянальнасць» знікла з пашпартаў, але тут давядзецца зноў вызначыцца. Калі бацькі заспрачаюцца, то дзіця запішуць па маці. Грамадзяніна з 15-гадовага ўзросту запытаюць: жывё ён у зарэгістраваным шлюбе альбо ў так званым «грамадзянскім». Вельмі падрабязна давядзецца распавесці пра «крыніцы сродкаў існавання». Вялікі блок пытанняў закранае працоўную занятасць. Статыстыкі мяркуюць падлічыць дакладную колькасць беспрацоўных, а таксама ўсіх дактароў і кандыдатаў навук (па просьбе міністэрства адукацыі).

Акрамя звычайнага перапіснога ліста, грамадзянам прынясуць дадатковы, які дазволіць прааналізаваць жыллёвыя ўмовы. У ім ёсць два раздзелы. Давядзецца прыгадаць, напрыклад, час пабудовы дома. Да таго ж запішуць, ці ёсць у хаце электрычнасць, газ ці печ, каналізацыя, гарачая вада, тэлефон і г.д.




*У сувязі з перапісам прыпынена перайменаванне вуліцаў. Зрэшты, назвы кшталту Савецкая, Пралетарская, імя Леніна ніхто мяняць і не збіраўся.*

Перапісваць будуць і замежных грамадзянаў, якія часова знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі. Паслам, святарам, бізнесменам давядзецца ўказаць мэту прыезду ў Беларусь, грамадзянства і нацыянальнасць, а таксама адрас.

### Ад бамжа да генерала

«Лічыльнікі» прыйдуць у кожную кватэру, у манастыр, дзіцячы дом, інтэрнат для састарэлых. У гатэлях, санаторыях, бальніцах, цягніках, на вакзалах людзей, як гэта практыкавалася раней, перапісваць не будуць. Толькі бамжоў збіраюцца перапісваць усюды, дзе напаткаюць.

«Лічыльнікаў», аднак, не дапусцяць на «закрытыя» аб'екты. Асобны парадак перапісу ўстаноўлены ў КДБ, войску і турмах.

Міністр абароны Аляксандр Чумакоў выдаў спецыяльны загад наконт стварэння апарату перапісу ва ўзброеных сілах. Вайскоўцы самі перапішуць сяржантаў і салдатаў тэрміновай службы, курсантаў вайсковых навучальных установаў, суворацаў, словам, усіх, хто жыве ў казарме. А вось генералаў, афіцэраў і прапаршчыкаў перапішуць дома штацкія «лічыльнікі».

**Мікола ВАЙТОВІЧ**

# У Рэчыцы будзе свята

*Нафтавікі чакаюць прэзідэнта*

**У канцы жніўня — пачатку верасня беларускія нафтавікі плануюць здабыць 100-мільённую тону нафты.**

З гэтай нагоды ў Рэчыцы плануюцца вялікія ўрачыстасці, удзельнічаць у якіх запрошаны прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка.

Гісторыя беларускай айчыннай нафтаздабываючай галіны пачалася ў 1964 годзе, калі геолагаразведчыкі адкрылі першыя нафтавыя радовішчы ў Гомельскай вобласці. Усяго адкрыта 61 радовішча, з якіх 51 уведзенае ў эксплуатацыю. Пік нафтаздабычы прыпаў на пачатак 70-х. Тады некалькі гадоў запар здабывалася па 6—8 мільёнаў тон «чорнага золата». У выніку празмернага адбору беларускія нетры былі вычарпаныя, а краіна, па падліках вучоных, выйграўшы 6 мільёнаў тон, страціла ў чатыры разы больш нафты, якая стала недаступнай.

З таго часу аб'ём нафтаздабычы знаходзіцца ў межах 2 мільёнаў тон у год. Сёлета плануецца здабыць крыху больш за 1,8 мільёна тон.

*БелаПАН*

# Дзень беларускай вайсковай славы

**Ад імя актывістаў Беларускага Народнага Фронту ў Мінгарвыканкам пададзена заяўка на правядзенне 8 верасня ў Мінску шэсця, мітынгу і канцэрта з нагоды Дня беларускай вайсковай славы.**

Як сказана ў заяўцы, гэтая традыцыйная акцыя праводзіцца, каб «праславіць подзвіг змагароў за незалежную Беларусь». Збор удзельнікаў намечаны на 18.30 каля Акадэміі навук. Потым адбудзецца шэсце па праспекце Францыска Скарыны, мітынг і канцэрт на плошчы Незалежнасці. Планаваная колькасць удзельнікаў акцыі — 7 тысяч чалавек.

*БелаПАН*

# Чарнобыльская асацыяцыя

**23 жніўня ва ўкраінскім горадзе Корасцень (Жытомірская вобласць) адбудзецца сустрэча прадстаўнікоў больш 20-ці прычарнобыльскіх гарадоў Беларусі, Украіны і Расіі.**

Мэр Корасценя Уладзімір Маскаленка паведаміў, што на сустрэчы плануецца заснаваць асацыяцыю прычарнобыльскіх гарадоў, якія найбольш пацярпелі ад наступстваў ядзернай катастрофы. Чакаецца, што ў Корасцень прыедуць прадстаўнікі 7-мі беларускіх гарадоў (у асноўным з Гомельскай вобласці), каб вызначыць асноўныя накірункі сумесных дзеянняў для мінімізацыі наступстваў катастрофы. Па словах украінскага мэра, удзельнікі асацыяцыі плануюць аб'яднаць свае намаганні для вырашэння экалагічных, медыцынскіх і фінансавых аспектаў праблемы.

*БелаПАН*

# Аляксандр Лукашэнка трапіў у дысбат

**Гродзенскі гарнізонны ваенны суд пакараў дысбатам чатырох салдатаў памежных войскаў, якія займаліся «дзедаўшчынай» — здзекваліся з навабранцаў.**

На лаве падсудных апынуліся Аляксандр Лукашэнка, Мікалай Машэўскі, Сяргей Макрыцкі і Аляксей Федаровіч. Суд улічыў, што «педагогі» не паспелі разгарнуцца і іхнія дзеянні не мелі цяжкіх наступстваў. Таму яны трапілі не ў турму, а ў дысцыплінарны батальён.

Год назад падобнае здарылася на суседняй заставе, і адзін з «дзядоў» нават трапіў за краты. Спецыфіка памежных войскаў такая, што салдаты значна больш часу, чым у звычайных часцях, знаходзяцца адныя, без афіцэраў. Вось і пачынае ў некаторых выяўляцца цяга да традыцыяў савецкага войска.

**Андрэй ДУРЭЙКА**

# Дапамагаюць усім, хто прыходзіць

**Больш за 10 тысяч чалавек здолелі атрымаць дапамогу ў дабрачынным таварыстве «Табея».**

Гэты цэнтр — унікальны для Беларусі. «Табея» з'яўляецца грамадскай арганізацыяй і існуе выключна як недзяржаўная ўстанова. Дапамагаюць тут усім, хто прыходзіць па дапамогу. У цэнтры працуюць сталовая, кабінеты тэрапеўта, стаматолага, кардыёлага. Прымаюць наведвальнікаў псіхолаг і юрыст. Тут выдаюць людзям адзенне, ежу. Хворыя могуць атрымаць у аптэцы цэнтра самыя дэфіцытныя лекі. Трэба адзначыць, што ўся дапамога цалкам бясплатная.

Як кажа кіраўнік цэнтра Павел Бродаў, «мы бачым тут усё гора, якое ёсць на зямлі: і жабракоў, і калек, і сіротаў, і бамжоў». Штодзень тут можна пабачыць невясёлую чаргу з людзей, лёс якіх склаўся самым неспрыяльным чынам.

Просьбы бываюць розныя. Напрыклад, напярэдадні 1 верасня многія маці просяць дапамагчы апрануць сваіх дзетак у штосьці больш-менш прыстойнае. На прыстойнае адзенне ў гэтых людзей грошай проста няма. А аднойчы адгукнуліся на зварот адной турэмнай установы. Якія б ні былі зэкі, але ж яны людзі — ім трэба было адзенне. Дапамаглі і зэкам.

За кошт чаго існуе таварыства «Табея»? Асноўная крыніца — аднайменнае таварыства ў ФРГ. Былы наш суайчыннік спадар Классен ужо шмат гадоў накіроўвае ў Беларусь караваны з самай рознай дапамогай. Ёсць сябры магілёўскіх дабрачынцаў у Швейцарыі, ЗША. Славутая амерыканская арганізацыя «Армія выратавання» выбрала «Табею» сваім партнёрам на Беларусі і выдаткавала разам з фондам *Counterpart* грант на падтрымку цэнтра.

Але ў наш складаны час і ў «Табеі» шмат цяжкасцяў. Прычыны самыя розныя. Напрыклад, праблемы з мытняй. Павел Бродаў распавядае, як груз з вострадэфіцытнымі лекамі коштам у 10 тысяч нямецкіх марак праляжаў амаль паўтара месяца на непрыстасаваным мытным складзе. Палова медыкаментаў проста сапсавалася.

Штатных супрацоўнікаў у «Табеі» крыху больш за 10 чалавек. А тых, хто штодзённа і дабравольна дапамагае рабіць добрую справу, амаль паўтары сотні. Большасць валанцёраў — вернікі-баптысты.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

*КАДРЫ*

# У Беларусі зноў ідуць дажджы



*Камароўскі рынак*

# Што творыцца за

**Што такое Камароўка? Месца, дзе можна ўсё купіць. Альбо ўсё прадаць. Месца, дзе вас могуць абдурыць (і дурыць). Альбо вы можаце абдурыць (і дурыце). Велізарны гандлёвы механізм, які ўцягвае ў сябе масу тавараў, маючы на выхадзе вынікам — грошы, прычым вялікія.**

**Сюды можна прыйсці жабраком, а пайсці заможным чалавекам. Як, скажам, адзін, сярэдняй рукі дзеяч камароўскай адміністрацыі, прыклад якога стаў класічным. Ён з'явіўся на рынак працаваць у стаптаных чаравіках, а калі яго нарэшце выгналі, дзеяч меў іншамарку, кватэру ў прэстыжным раёне і залаты ланцуг на тоўстай шыі...**

## Перакупшчыкі

Да 1996 года Камароўка нібыта гандлявала «няправільна». Потым, як вядома, камароўскімі справамі зацікавіўся прэзідэнт. Па сігналу ў афіцыйным друку была распачата прапагандысцкая кампанія. Прыдумалі адпаведны лозунг: «галоўнай фігурай на рынку павінен быць вытворца». Камароўку зрабілі дзяржаўным прадпрыемствам, а дырэктарам прызначылі адстаўнога капітана Савецкай Арміі Віктара Раманенкава (у войску ён нёс службу ў дысцыплінарным батальёне).

Рынак на некаторы час апусцеў. Адначасова народу ўнушалася, што цэны немінуча ўпадуць і будзе навалам таннага мяса. Бязлюдная Камароўка была нядоўга. Яе насельнікі даволі хутка прыстасаваліся да новых умоваў.

Гандаль мясам на Камароўцы знаходзіцца пераважна ў руках афра-азіятаў. Большасць прыехалі з Каўказа, але ёсць тавараўшы і з Паўночнай Афрыкі. Мяса прывозяць з сельскай мясцовасці ранкам, і тады адбываецца яго аптовая закупка. Машыну акружаюць па 30—40 чалавек. Для продажу каўказцы наймаюць мясцовы кантынгент з ліку беспрацоўных альбо тых, хто хоча падзарабіць. Часта ў іх няма нават санкніжак. Пастаўшчыкі мяса праходзяць як «вытворцы» (адпаведная даведка каштуе зараз ад 300 да 500 тысяч і здабыць яе можна досыць лёгка). Сертыфікат якасці на той ці іншы падазроны тавар таксама не праблема: яго кошт цяпер — да 10 долараў.

Практычна ўсе каўказцы не маюць віда на жыхарства. Міліцыя раз-пораз іх забірае, штрафуе на 200 тысяч рублёў і адпускае. Заводзіць нейкую справу, займацца высылкай «сыноў сонечнага Каўказа» клапатліва і эканамічна нявыгадна.

Колькі ўвогуле «чорных» грошай праходзіць праз мясныя рады, сказаць цяжка. Ясна толькі, што большая іх частка падаткам не абкладаецца. Дзеля гэтага проста трэба мець пэўныя сувязі ў адміністрацыі рынка.

Такім чынам, хацелі як лепш, а выйшла, як заўсёды. Перакупшчыкі нікуды не зніклі, як не з'явіўся на рынку і сапраўдны вытворца. Ва ўсім свеце адзін прадукцыю вырабляе, другі прадае. Беларусь знайшла свой «шлях». Рэальнае жыццё, праўда, яго скарэкціравала. З носам засталіся тыя, дзеля каго ўсё і задумвалася, — пакупнікі. Выдаткі перакупшчыка ўзраслі — ён падняў цэны — мы пашыпелі, але купляем па новай цане.

## Тэхналогія падману

Тое, што на Камароўцы дураць, — элементарна. Пагавораць аб спосабах.

Самыя папулярныя на рынку — бытавыя вагі «глобус». Яны здольныя абважваць на 70—250 грамаў на кожным кілаграме. Карыстацца імі, у прынцыпе, забаронена, але да кожнага гандляра падатковага інспектара не прыставіш.

Колькасць разнастайных праверак рынку проста неверагодная. Толькі падатковая інспекцыя Савецкага раёна сталіцы правяла іх 1.507 за апошнія паўтара года. Вынік уражвае: у 1.023 выпадках былі выяўлены парушэнні падатковага заканадаўства і правілаў гандлю.

Яшчэ летась той, каго «застукалі» на абважванні ці гандлі няякасным таварам, трапляў у «чорны спіс», прозвішча гандляра заносілася ў камп'ютэр і дазволу на гандаль яго аўтаматычна пазбаўлялі. Зараз усё значна прасцей — «дамовіцца» можна...

## Буржуй, Ус і іншыя

Ясна, што Камароўка ні на дзень не пакідаецца без шчыльнай апекі крымінальнага свету. Практычна ніводная гандлёвая аперацыя не застаецца без яго пільнай увагі.

Наколькі мне вядома, рынак цяпер кантралююць каля пяці груповак рэкеціраў. Камароўка вялікая, месца хапае ўсім. Звычайна «быкі» бавяць час на вуліцы Кульман, ля дома быту альбо ў гаражах рынка. У выпадку ўзнікнення канфліктных сітуацыяў, «разборкі» адбываюцца ля універсама «Рыга», на аўтастаянцы.

Кажуць, «смотрящий» за рынкам цяпер Буржуй. Вядома, што яму гадоў 35—36 і сядзеў ён неаднойчы. «Смотрящий» падтрымлівае парадак у асяроддзі «братвы» і сяродгандляроў, вырашае, каго пакараць, а каго — рана. У яго абавязак уваходзіць збор грошай у «абшчак».

Таксама прыкметная фігура на Камароўцы — Ус. Звестак пра яго мала, толькі вядома, што ён тройчы судзімы.

Рэкет устанаўлівае памер адлічэнняў з кожнага гандляра і з кожнай машыны, што прыязджае на рынак. Напрыклад, калі прывозяць «бахчу» (паўднёвая садавіна), з кожнай машыны бяруць у дзень да 150 долараў. Сярэдняя такса за машыну на тавара-транспартнай пляцоўцы паміж вуліцамі Кульман і В.Харужай — таксама да 150 долараў, але ў месяц. Кожны прыватны прадпрымальнік нібыта плаціць па 500 долараў у месяц. Лічбы, канешне, могуць выклікаць сумненні, іх не праверыш — ніхто не скажа, але плацяць практычна ўсе.

Па неафіцыйных падліках, да 30 працэнтаў кошту таго ці іншага тавару ідзе ў кішэню крымінальнікаў. У сярэднім мы пераплачваем па 3—5 тысячаў за кожны кілаграм чаго-небудзь, купленага на Камароўцы. Вядома, лічбы таксама прыблізныя, але нейкае ўяўленне аб «чорным» абароце грошай даюць.

Калі забілі Боцмана, былога «смотрящего» за Камароўкай, на рынак палезлі маладыя, «неарганізаваныя» рэкеціры. Перыяд адноснай анархіі прайшоў даволі хутка — з «маладымі ваўкамі» разабраліся, і ўсё пацякло па-старому.

Крымінальнікі, апрача ўсяго, ажыццяўляюць адну далікатную функцыю — часта выступаюць пасрэднікамі паміж гандлярамі і прадстаўнікамі адміністрацыі рынка. «Дах» яны сапраўды дадуць, але не дай вам Божа не заплаціць у тэрмін і столькі, колькі скажуць...

## «Дарагія рады»

Яны размяшчаюцца непадалёк ад уваходу і радуюць вока адборным таварам і багатым выбарам. «Дарагія рады» знаходзяцца ў прывілеяваным становішчы. Атрымаць тут гандлёвае месца — справа складаная, але не для ўсіх. Людзі з сувязямі і грашыма (а іншых у гэтым месцы Камароўкі не водзіцца) вырашаюць праблему элементарна. Калі ж месца атрымана, прыбытак будзе гарантаваны.

Пры першым позірку на цэннікі «дарагіх радоў» вочы лезуць на лоб імкліва. Тым не менш, пакупнікі ёсць. Гэта прадстаўнікі «мідл-класа» і тыя, хто стаіць яшчэ вышэй. Іх мала, але яны ёсць. Ім не хочацца таўкацца ў натоўпе, яны прыходзяць і купляюць лепшае і па любой цане. Калі паўсюдна на рынку чарэшня ідзе па 50 тысяч за кіло, то яны ўсё роўна купяць тут хоць і па 150 тысяч.

Дарэчы, гандлёвыя месцы дзеліць сама адміністрацыя. Дазвол на гандаль могуць даць на суткі, тыдзень, месяц. Пастаянных гандлёвых месцаў на рынку няма, што ставарае бязмежныя магчымасці для, мякка кажучы, не вельмі законных аперацыяў. Уявіце: вам тэрмінова спатрэбілася месца, а чыноўнік божыцца — быццам бы няма. Што вы робіце? Правільна...

## Каларытная фігура

Дырэктар Камароўскага рынку таварыш Раманенкаў любіць паказваць наведвальнікам нейкі медаль і пасведчанне да яго, падпісанае Сажы Умалатавай. Часта ездзіць у Расію, пераважна на пленумы КПРФ. У кабінеце вісяць іконы, гараць свечкі, кожны месяц праваслаўны святар выганяе з кабінета нячысцікаў. Яно б нічога, якіх дзівакоў не бывае...

# Вазіць вам – не перавазіць

*Ці на самой справе Зімоўскі такі тупы, як здаецца?*

Чалавечы род па-навуковаму завецца *homo sapiens* — чалавек разумны. Яго галоўнаю відавою прыкметаю з'яўляецца здольнасць несупярэчліва выказаць словамі сваю думку. Цікава, што гэтая здольнасць ёсць, найперш, плён выхавання. Самы неадукаваны чалавек звычайна ў стане ясна выказаць сваё меркаванне. Толькі тупая ад прыроды асоба здольная, як аб гэтым паведамляе вядомая нямецкая казка, вітаць пахавальную працэсію словамі «вазіць вам — не перавазіць!». Так свайго дурнаватага сына навучыла маці-сялянка сустракаць суседзяў, што вяртаюцца з поля з вазамі снапоў. А ён не адрозніў воз з труною ад воза снапоў. За што і быў збіты. У старажытнасці і ў Германіі норавы былі жорсткія. Бо біць дурня — грэх.

Іншая справа, калі чалавек нібыта разумны косіць пад дурня. Прыкладаў гэтаму ў наш час, на жаль, вельмі многа. Але возьмем найбольш вядомы. Можна сказаць — вядомы на ўсю краіну. Гаворка пра галоўнага каментатара БТ А.Зімоўскага. Слухаць яго «Рэзананс» — сапраўдная пакута для чалавека, у якога ўсё ў парадку з галавой.

Вось у апошнюю нядзелю дэманструе А.Зімоўскі нейкую паперу, дзе фламастарам падкрэслены радок, які паведамляе, што заробак кіраўніка гранта складае нешта 2,5 тыс. долараў. І кажа Зімоўскі, што гэтыя грошы атрымлівае сябра кіруючага органа Аб'яднанай грамадзянскай партыі Віктар Карніенка. «Нейкі Віктар Карніенка», — гаворыць Зімоўскі. Хаця такому абазнанаму каментатару трэба было ведаць, што Віктар Карніенка ў 1989 г. выйграў першыя больш-менш дэмакратычныя выбары на З'езд народных дэпутатаў СССР.

Дэманструючы паперу, «чэсны каментатар», зразумела, ні слова не кажа пра працу, якой займаецца В.Карніенка. Не кажа ён і таго, што гэта заробак за год, а не за месяц. У месяц атрымліваецца толькі 200 долараў. Зімоўскі спрабуе выклікаць у гледача абурэнне чужым заробкам у чужой валюце.

Дарэмна, таварыш Зімоўскі. Калі вы ўжо прыняліся лічыць грошы ў чужой кішэні, то трэба было б параўнаць заробак Карніенкі са сваім уласным. Пералічыце ў долары свае ганебныя мільёны, якімі аплачваецца ваш «грант» на дэзінфармацыю насельніцтва і паклёпы на апазіцыю. Думаю, што атрымаецца не менш, чым у Карніенкі. Маглі б таксама прывесці дадзеныя па заробках Ціцянкова ці Шэймана — каб народ ведаў, як жывуць блізкія паплечнікі нашага «беднага прэзідэнта».

Калі ж вы хацелі падкрэсліць, што 200 долараў — гэта 2,5 сярэднемесячнага заробку ў Беларусі, то так і трэба было б сказаць. І паведаміць, што сярэдні беларус зарабляе ў 1,5 раза меней, чым грамадзянін Расіі, у тры разы меней, чым літовец і ў пяць разоў меней, чым паляк. Маглі б таксама адзначыць, што ўзровень заробку ў 80 долараў у месяц характэрны для самых бедных і адсталых краінаў «трэцяга свету». І што ў выпадку Беларусі гэта ёсць вынік сацыялізму — спачатку «развітога», а потым «рынкавага».

Ды ці мала яшчэ чаго цікавага з беларускай эканамічнай рэальнасці вы б маглі пракаменціраваць. Асабліва ўлічваючы вашую шырокую абазнанасць у манетарнай палітыцы. Аднак каментатар выбраў для сябе толькі фінансавы крызіс у Расіі.

З бляскам у вачах і са зларадасцю Зімоўскі паведамляе гледачу, што на мінулым тыдні фондавая біржа ў Маскве была паралізаваная. «А Беларусь яшчэ папракаюць, што няма ў нас фондавай біржы, — зазначае ён. — Дык няма ў нас і крызісу, які выклікалі біржавыя спекулянты!». І ў падмацаванне свайго «бліскучага» разважання Зімоўскі прыводзіць доўгую цытату з Кейнса — аўтара адной з тэорыяў ліберальнай рынкавай гаспадаркі, а зусім не «рынкавага сацыялізму». Сапраўды Кейнс лічыў вытворчую дзейнасць асноваю здаровай гаспадаркі і ўстойлівасці фінансавай сістэмы. Але ж ён не адмаўляў манетарызму і ролі фінансавых рынкавых інстытутаў. Не лічыў нестрымальную інфляцыю сродкам вылечвання эканомікі. Бо гэта — бязглуздзіца. Без устойлівай грашовай сістэмы ніякая рынкавая гаспадарка проста немагчымая.

Расія стварыла такую сістэму і спыніла інфляцыю. Гэта вялікае дасягненне. Яно сведчыць пра тое, што Расія зрабіла важнейшы крок да інтэграцыі ў сусветную рынкавую гаспадарку. Таму яна і стала адчуваць уплыў міжнародных фінансавых катаклізмаў. Зразумела, што ў яе яшчэ маса праблемаў са стварэннем сучаснай канкурэнтаздольнай прамысловасці. Але гэтых праблемаў у Беларусі не менш. А вось цяжкасцяў на шляху іх вырашэння значна больш, бо беларускія грошы яшчэ не з'яўляюцца валютай (у адрозненне ад расійскага рубля, украінскай грыўны, літоўскага літа). І беларускі прэзідэнт робіць усё магчымае і немагчымае, каб пазбавіцца заходняй дапамогі ў стабілізацыі беларускага рубля і спыненні інфляцыі, з-за якой кожны жыхар Беларусі з кожным днём становіцца ўсё бядней і бядней. І фінансавых спекулянтаў у нас больш, чым у Расіі. Бо для іх дзейнасці ўрад стварыў найзручнейшую сітуацыю ў выглядзе некалькіх абменных курсаў. Фактычна беларуская эканоміка стала натуральнаю гаспадаркай, дзе пануе прамы тавараабмен. Усё гэта — глеба для карупцыі, злоўжывання чынавенствам сваім службовым становішчам.

Вось і атрымліваецца, што пакпіў гарбуз з дыні. Там, дзе трэба плакаць, сп. Зімоўскі смяецца. Зусім як дурань з нямецкай казкі.

**Юрый ХАДЫКА**

*Ліст у рэдакцыю*

# Спасибо хоть бабулькам за пучок морковки

Я — мать, и я хорошо знаю, как необходимы овощи и фрукты для питания ребенка. Но создается впечатление, что нам предлагают заменить их макаронами и алкоголем. Все больше становится мест, где можно купить водку, а вот овощи....

В постоянно растущем минском микрорайоне Сухарево площадь овощного магазина сначала уменьшилась втрое, освободив большую часть под торговлю спиртными напитками, затем магазин закрылся совсем. Сегодня в Сухарево нет ни одного овощного магазина! В борьбе «за чистоту улиц» убрали лотки розничной торговли, где всегда можно было купить огурцы, помидоры, бананы. Зато в продовольственных магазинах увеличился ассортимент спиртного (вот бы такое разнообразие детского питания), а возле единственного вагончика агрофирмы «Ждановичи» выросли очередь и куча мусора. Вот и ездят мамы с колясками и сумками за витаминами за три леса в соседние районы (спасибо, что хоть не за тридевять земель).

А вот была не так давно в Витебске. Там в микрорайоне Тирасполь картина еще хуже. Обошла несколько магазинов: спиртного полным-полно, но лишь в одном отделе увидела картофель и довольно дорогие помидоры. За овощами моим знакомым приходится ездить на рынок, который совсем не близко. Те, у кого есть дачи, пользуются плодами своих трудов, а иные совершают набеги на близлежащие участки. Что делать? Овощи не приносят больших доходов, торговля в них не заинтересована, и каждый обеспечивает свою семью зеленью как может.

Аналогичная картина во многих городах. Одно спасение — дачники и бабки с ближайших деревень. Это они, постоянно гонимые милицией, приносят к магазинам пучки свежей моркови и стаканы ягод. Стоят и в зной, и в холод, чтобы заработать себе копейку к пенсии. Однако не раз было: если видят, что я покупаю для ребенка, то и выберут получше и продадут дешевле. Вот и получается — если бы не бабки, сидели б наши детки в «спальных» районах без витаминов.

**Галина ТРОЦКАЯ,**
*г. Минск*

# фасадам



*Дырэктар Камароўкі Віктар Раманенкаў.*

Але апошнім часам Камароўку моцна затрэсла. Шматлікія камісіі ўпарта высвятляюць, чаму справы на Камароўскім рынку ідуць усё горш. Чаму запазычанасць рынку дзяржаве, па некаторых дадзеных, дасягнула 6 мільярдаў? Чаму рэзка знізіліся прыбыткі, а мяса і іншыя прадукты ўсё даражэюць і даражэюць?

Праверкі рынку пачаліся ў снежні 1997 г. і цягнуцца перманентным чынам дагэтуль. Дзяржкантроль, Мінгарвыканкам, Савет бяспекі — шмат хто адзначыўся на Камароўцы. Як вынікае з папераў Савета бяспекі, большасць фактаў пацвердзілася (меліся на ўвазе злоўжыванні на рынку. — *А.С.*). Матэрыялы праверкі далажаны прэзідэнту РБ, які пагадзіўся з вывадамі і прапановамі камісіі... і даў даручэнні, якія знаходзяцца ў стадыі рэалізацыі...

У гэтай стадыі даручэнні знаходзяцца дагэтуль. Як сказалі ў Камітэце дзяржкантролю, Раманенкаву зараз шукаюць замену. Прыменены класічны ход: з матэрыяламі праверак дырэктара не знаёмяць, ён піша тлумачальныя запіскі, але адказы яму не дасылаюць. Што-небудзь даведацца пра лёс Раманенкава і ўласна Камароўкі ў адпаведных дзяржструктурах немагчыма. Чыноўнікі маўчаць, як партызаны. Іх зразумець можна: усе добра памятаюць, хто прызначаў на пасаду цяперашняга дырэктара і якімі лозунгамі гэта суправаджалася. А прэзідэнт у нас малады і надта самалюбівы — раптам пакрыўдзіцца. Паляцяць галовы...

У прынцыпе, нічога не здарылася. Наша вышэйшая ўлада яшчэ раз паспяхова даказала: за што б яна ні бралася, усё выходзіць праз пень-калоду. Зноў, у каторы раз высветлілася, што эканоміка, законы цэнаўтварэння, гандлю, накладзеныя на нашы спецыфічныя ўмовы, не залежаць ад чалавека, тым больш, аднаго. Якім бы «верным Русланам» ён ні быў.

Хутчэй за ўсё, нас чакае новы захапляючы спектакль пад назвай «Трыумф справядлівасці» ў выкананні аднаго, усяго таго ж акцёра...

**Андрэй СЯРЖАН**

# «Лічна Леаніду Ільічу»

Нядаўна прэзідэнт павучаў пісьменнікаў, як ім быць бліжэй да жыцця. І ён меў рацыю. Ёсць такі грэх у працаўнікоў пяра — лунаць у аблоках, марыць, выдумляць нешта. Карацей, што тут казаць, часам «страшна далякі ані ад народа». Пра адраджэнне ды беларускую мову турбуюцца, Пагоню ды суверэнітэт ім давай. Быццам няма больш надзённых, жыццёвых праблем! А трэба быць прасцей, бліжэй да народа. У гэтай справе, як паказвае практыка, пісьменнікі, якія адначасова з'яўляюцца журналістамі, трымаюць руку, так сказаць, на пульсе часу.

Вось трапілася мне кніга таксама літаратара-журналіста вядомага С.Даўлатава. Усе апавяданні ў ёй пра тое, як ён калісьці працаваў у газеце «Советская Эстония». У адным расказваецца, як эстонская даярка надаіла рэкордную колькасць малака, і начальства прыдумала бяспройгрышную ідэалагічную акцыю. Няхай яна адрапартуе асабіста Брэжневу, ён адкажа ёй, і ўсё гэта абнародаваць у прэсе: маўляў, «народ і партыя — адзіныя!» Справу адразу ўзгаднілі з Масквой і атрымалі «добра».

Паколькі эстонская калгасніца па-руску гаварыла кепска, дык да яе паслалі журналіста з фотаграфам. Так нарадзіўся тэкст тэлеграмы: *«Дарагі і шматпаважаны Леанід Ільіч! Хачу падзяліцца з Вамі радаснай падзеяй. У бягучым годзе мне ўдалося дасягнуць небывалых працоўных паказчыкаў. Я надаіла ад адной каровы рэкордную колькасць малака. І яшчэ адна радасная падзея адбылася ў маім жыцці. Камуністы нашай фермы дружна абралі мяне сваім членам! Абяцаю Вам, Леанід Ільіч, і надалей працаваць з яшчэ большым уздымам».*

Гісторыя мае анекдатычны канчатак. Пакуль талінскія журналісты дабраліся да патрэбнай вёскі і фермы, пакуль зрабілі сваю справу, Масква адрэагавала хутчэй. І, перш чым тэлеграма даяркі была адаслана, адтуль прыйшоў адказ з подпісам Брэжнева, які падзякаваў калгасніцы і павіншаваў з уступленнем у шэрагі «авангарда савецкага грамадства, яго слаўнага перадавога атрада». Можна, канечне, паспрачацца, колькі тут праўды, а колькі — выдуманага. Але чаго толькі не бывала ў «краіне дурняў».

Самае цікавае, што ўчарашні дзень вяртаецца. Бяру я ў рукі свежую газету і чытаю тэлеграму прэзідэнту Лукашэнку ад працаўнікоў калгаса «Кастрычнік» Гродзенскага раёна, якія рапартуюць яму з гэткім вернападданніцкім замілаваннем. Мяркуйце самі: *«Гатовы Вам далажыць, што з гонарам выканалі свой сялянскі абавязак — своечасова правялі ўборку збожжавых... Выражаем Вам, Аляксандр Рыгоравіч, шчырае прызнанне ад простых хлебаробаў за падтрымку і дапамогу, якую Вы і ўрад аказваеце нам у гэты вельмі складаны для ўборкі сельскагаспадарчы год. Бачачы, як складана праходзіць уборачная кампанія ў краіне, бярэм абавязацельства прадаць дзяржаве ў 2,5 раза больш, чымсьці прадугледжана планам дзяржзакупак. Застаемся Вам вернымі выбаршчыкамі».* А вы кажаце, што пісьменнікі ўсё выдумляюць...

Здавалася б, сялянам трэба дзякаваць сваёй зямлі за сабраны ўраджай (62 цэнтнеры з гектара) ды за тое, што даваенныя «інтэгратары» здолелі далучыць Заходнюю Беларусь да «калгаснага раю» значна пазней за Усходнюю, дзе ўраджаі сапраўды «калгасныя». Трэба, праўда, сказаць, што простыя хлебаробы нічога, на самой справе, Лукашэнку не пасылалі, бо тэлеграма падпісана толькі старшынямі самога калгаса і ягонага прафкама. Але і гэта яшчэ не ўсё. У той жа дзень падобная тэлеграма была паслана прэзідэнту з суседняга калгаса «Свіслач» Гродзенскага раёна. Лукашэнка, праўда, адрэагаваў толькі чамусьці на «свіслацкую» тэлеграму, з якой азнаёміўся «з вялікім задавальненнем» і даслаў у калгас тэлеграму ў адказ. Карацей, усё — як у літаратуры.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# Хто вы, доктар Рагуля?

*З цыкла «Прыватнае меркаванне грамадзяніна Старыкевіча»*



Імя Барыса Рагулі за апошні час я пачуў двойчы. На нядаўняй сустрэчы з пісьменнікамі Лукашэнка шкадаваў з нагоды папулярнасці ў асяроддзі творчай інтэлігенцыі гэтай «адыёзнай асобы». А некалькі дзён раней старэнькая бабуля з Наваградка, узгадваючы ваенныя часы, перахрысцілася: «Дзякуючы Рагулі і яго хлопцам нас не чапалі ні немцы, ні партызаны».

Лёс звёў мяне з Барысам Рагулем летась у Вільні. Наша гутарка доўжылася некалькі гадзінаў. Аднак асэнсоўваць яе я працягваю дагэтуль. І лічу сваім абавязкам распавесці пра гэтага незвычайнага чалавека.

Барыс Рагуля нарадзіўся ў мястэчку Турэц 1 студзеня 1920 года. Хутка ён застаўся без бацькі, які падчас сваёй лекарскай працы заразіўся ад хворых тыфусам і памёр. Потым Барыс з маці жыў у Любчы і Навагрудку. Там Рагуля наведваў беларускую гімназію. Аднак у сярэдзіне 30-х палякі вырашылі зачыніць гэтую навучальную ўстанову. Тады і адбылося першае змаганне Рагулі за беларускую справу. Разам з іншымі патрыётамі ён дамогся ад тагачасных уладаў дазволу на працяг існавання гімназіі пры ўмове, калі знойдзецца дастатковая колькасць новых вучняў. Прыхільнікі беларускай адукацыі хадзілі па вёсках, даводзілі людзям неабходнасць накіроўваць дзяцей менавіта ў нацыянальную школу. Іх намаганні мелі поспех, аднак палякі сваё слова не стрымалі і спынілі дзейнасць гімназіі. Пасля гэтага Рагуля паўстаў перад выбарам: альбо ехаць вучыцца ў Вільню, альбо ісці ў польскую школу. Паколькі ў сям'і бракавала сродкаў, ён застаўся ў Навагрудку.

*«У беларускай гімназіі я ведаў, што я беларус. У польскай гімназіі я адчуў, што я беларус. Адразу мы апынуліся ў ізаляцыі, быццам заразна хворыя: наша група ў адным кутку, рэштка класа ў другім. Там было больш беларусаў, але яны запісаны былі расейцамі альбо палякамі. Пры першым пераліку толькі пяцёра назваліся беларусамі, а напрыканцы гімназіі ўжо трынаццаць. У польскай гімназіі мы змагаліся за сваю мову, збіралі літаратуру, прычым рабілі гэта без усялякага палітычнага накірунку. Неяк мы ўстрымаліся і не пайшлі па камуністычнай лініі. Хоць мясцовыя бальшавікі падгаворвалі нас далучыцца да камуністычных акцыяў».*

Гімназію Барыс Рагуля скончыў у 1938 годзе. Тады таксама існавала правіла, што таму, хто ідзе ва універсітэт, адтэрміноўвалі службу ў войску. З 15 кандыдатаў з гімназіі, дзе вучыўся Рагуля, на медычны факультэт прынялі чатырох: аднаго паляка ды трох беларусаў. Гэта палякаў страшна ўзрушыла. У выніку да Рагулі дахаты прыехала паліцыя і запатрабавала, каб ён у 24 гадзіны з'явіўся ў войска. Яго падманулі, паведаміўшы, нібыта адтуль яго перавядуць ва універсітэт. Таксама паступілі з адным сябрам Барыса. Адна ўцеха была, што на іх месцы ўзялі двух іншых беларусаў. Тады Рагуля вырашыў атрымаць са свайго няшчасця хоць нейкую карысць, прынамсі, добрую вайсковую падрыхтоўку.

### Польскае войска і нямецкі палон

*«Падчас службы ў войску я слухаў нямецкае радыё, тым больш, што прасілі самі палякі, якія цікавіліся, што іх чакае. Я ім кажу: «Хлопцы, канец вам. Гітлер вас атакаваць будзе». — О, дык у яго ж папяровыя танкі! — Не ведаю, папяровыя ці не, аднак, ён забярэ ўсё.*

*Першы нямецкі наступ быў страшэнны. Мы гадзін дванаццаць утрымоўвалі пазіцыі. Потым мусілі адступіць. Наогул гэты бліцкрыг скончыўся за чатыры тыдні. Але ж Францыя пратрымалася толькі тры».*

Паранены Рагуля трапіў у нямецкі палон і адразу пачаў планаваць уцёкі. Першая спроба не атрымалася, аднак гэта не спыніла Рагулю, як і падвоеныя драты, вышкі і канвой. Ён разам з сябрамі падрыхтаваў мапы, компасы. І…

*«20 студзеня 1940 года быў мароз каля 30 градусаў. У начы мы, апрануўшы белыя халаты, дапаўзлі да плоту. Дамовіліся так: кожны ідзе на сваю рызыку. Каго падстрэляць, мы не адказваем, бо тут няма гераізму ратаваць іншага. Прызначылі месца збору для тых, каму пашанцуе.*

*Пасля таго, як мы вырваліся, каталікі, што былі з намі, пачалі маліцца. «Ну, вы маліцеся, — сказаў я, — а я мапу пагляджу». Потым мы хаваліся ў лесе, дзе-нідзе даілі кароў. Кіламетраў за 20 да мяжы нас знайшоў нейкі паляўнічы, бо на свежым снезе заставаліся добра бачныя сляды. Ён даў адзін стрэл і загадаў нам выходзіць з узнятымі рукамі. Я кажу яму: «Мы не злачынцы. Мы ўцякаем з палону. Нас пяцёра, яшчэ адзін стрэл і табе канец». Той нібыта згадзіўся пакінуць нас, але потым хуценька паклікаў жандармерыю. Нас абкружылі і вярнулі ў лагер. Калі там нямецкі афіцэр пачаў пытацца, хто кіраваў уцёкамі, я ўзяў віну на сябе і астатніх пакінулі без пакарання. Потым пачалі высвятляць, дзе вашы шчыпцы, мапы, компасы. Я адказаў: «Няма. Мы па зорках ішлі». Праз нейкі час адзін нямецкі афіцэр ізноў пытаецца: «Распавядзі, як вы ўцяклі». Я адказаў: «Не магу, бо ўцяку ізноў».*

Каб перашкодзіць наступным уцёкам, Рагулю з сябрамі вывезлі далей ад Беларусі і паставілі працаваць у кляштары гароднікамі. Адтуль яны збеглі ў траўні, гэтым разам паспяхова. Савецкую мяжу мусілі пераходзіць нелегальна, задам, каб сляды вялі нібыта ў Польшчу. Зайшлі ў першую хату, што ім патрапілася на Бацькаўшчыне, і атрымалі страшэнны ўдар. Сяляне назвалі іх дурнямі і параілі вярнуцца. Але назад ходу ўжо не было. Рагуля ізноў апынуўся ў Любчы, дзе працаваў настаўнікам. Але аднойчы Барыс распачаў гутарку, якая вельмі дорага яму каштавала.

*«Я пытаюся ў дырэктара: «Чаму у Любчы расейская школа? Тут жа раней адзін поп па-расейску гаварыў». Той натапырыўся: «А вы што, нацыяналіст?». Я адказваю: «Так. У мяне была беларуская мова, беларускія школы, а цяпер вы вызвалілі нас і навязваеце расейскую мову».*

У хуткім часе Рагулю арыштавалі. Яго традыцыйна абвінавацілі ў шпіянажы, а таксама ў стварэнні антысавецкага войска ў Налібоцкай пушчы. Следства доўжылася паўгода, а потым ён быў асуджаны да пакарання смерцю. Аднак Рагулю пашанцавала. Напярэдадні выканання прысуду падчас нямецкай бамбёжкі ён здолеў схавацца ў вялікай калоне арыштантаў з гарадской турмы, пасля чаго ізноў пайшоў ва ўцёкі.

### «Мы не служылі немцам»

Рагуля вярнуўся ў акупаваны немцамі Навагрудак, дзе стаў перакладчыкам. Разам з аднадумцамі яны намагаліся хоць нейкім чынам ва ўмовах, калі савецкая акупацыя замянілася на нямецкую, рабіць сваю справу. Напрыклад, яны здолелі аднавіць беларускую гімназію, зрабіць яшчэ тое-сёе ў асветніцкіх мэтах. Аднак галоўная справа, дзякуючы якой ён стаў знакамітым, была яшчэ наперадзе.

*«У 1943 годзе мне прапанавалі з'ездзіць у Нямеччыну, паглядзець, як там працуюць остарбайтэн. Калі я вярнуўся адтуль, то пайшоў па вёсках і пачаў казаць: «Хлопцы, нельга туды ехаць, бо гэта няволя». Гэта дайшло да немцаў і мяне пагналі з усіх функцыяў. Але праз пэўны час яны зразумелі, што прайграюць вайну. Тады камендант Навагрудскага раёна Траўб прыйшоў да мяне і прапанаваў стварыць вайсковую адзінку дзеля абароны ад партызанаў. Я адказаў: «Трэба бараніць і ад партызанаў, і ад вас, бо расстрэльваюць і тыя, і другія».*

Пасля кансультацыяў з сябрамі Рагуля паведаміў Траўбу свае ўмовы: эскадрон павінен быць незалежным ад жандармерыі і наогул мясцовых акупацыйных уладаў і без аніводнага нямецкага афіцэра. Калі ў яго запыталіся, колькі часу неабходна дзеля стварэння гэтай вайсковай адзінкі, Барыс вызначыў тэрмін два тыдні ад моманту атрымання зброі і абмундзіравання. Немцы не паверылі, і калі мінула паўмесяца, наладзілі інспекцыю. Тая была вельмі здзіўленая, што сваё абяцанне Рагуля выканаў.

*«Ад гэтага моманту шмат каму палягчэла. Мы карысталіся рознымі сродкамі, каб папярэдзіць забойствы мірнага насельніцтва. Адзін вечар шэф Навагрудскага СД быў у нашых руках, мы яму жанчыну падсунулі. Ён паведаміў мне, што ў Карэлічах будуць зноў рабіць карныя акцыі, арыштоўваць камуністаў і падазроных. Я адразу накіраваў туды свой эскадрон, і немцы мусілі адмовіцца ад сваіх планаў».*



**Доктар Барыс Рагуля падчас інаўгурацыйнай прамовы пасля выбрання на пасаду прэзідэнта Медычнай акадэміі, 1973 г.**

Цікава, што Рагуля не толькі бараніў насельніцтва ад партызанаў, але і спрабаваў пераканаць апошніх разам служыць Беларусі. Падобна, што ў свае 24 гады Барыс меў даволі ідэалістычныя погляды шмат на якія рэчы. Аднак гэта не перашкаджала яму рабіць сваю канкрэтную справу.

*«Я казаў партызанам: «Хлопцы, мы не служым немцам, мы толькі хочам бараніць нашых людзей. Вы ж страляеце не ў немцаў, якіх за ўвесь час забілі толькі пяць, а ў нашых настаўнікаў ды беларускіх актывістаў». «А што мы можам зрабіць, — адказваюць яны. — У нас камандзіры ўсе з Масквы».*

*У мяне быў план пераканаць кіраўніка аднаго з партызанскіх аддзелаў Віктара на нацыянальны бок, злучыць яго людзей з эскадронам і абвесціць у Навагрудку Беларускую Рэспубліку. Цяпер самому смешна ўзгадваць. Аднак у той час усё ўспрымалася ўсур'ёз, хоць да рэалізацыі гэтых планаў справа не дайшла».*

Не адбылося і яшчэ шмат чаго. Не спраўдзіліся спадзяванні Рагулі здзейсніць пераварот на II Беларускім кангрэсе і ўтварыць БНР. Аднак эскадрон зрабіў усё ж нямала. Сам факт яго існавання прымусіў партызанаў спыніць свае карныя акцыі супраць насельніцтва.

*«Найбольшая сутычка з партызанамі была ў Забалоцці 24 сакавіка 44-га года. Мы адмыслова зрабілі маршрут там, дзе ніякія нямецкія калоны прайсці не маглі. Вайсковым парадкам увайшлі ў лес, папаілі коней у Свіцязі і пайшлі далей. Усюды нас партызаны пільнавалі, аднак не наважваліся распачаць страляніну.*

*Калі мы ўвайшлі ў Забалоцце, дзе мясціўся партызанскі штаб, то зразумелі, што іх нехта папярэдзіў, бо там нікога не было. Але хутка распачаўся бой, які доўжыўся некалькі гадзінаў. Мы страцілі чатырох хлапцоў».*

Так, не было ніякіх масавых баталіяў беларускага эскадрона з партызанамі. Сам Рагуля лічыць, што стварэнне нацыянальнай вайсковай адзінкі было справай не столькі вайсковай, колькі ідэалагічнай.

*«Эскадрон звонку выглядаў лепш, чым ён быў на самой справе. Ён фактычна быў сцягам, які канцэнтраваў вакол сябе ўвагу. Насельніцтва ажыло, людзі зразумелі, што маюць абарону. Мы вельмі сур'ёзна ставіліся да ўласнага іміджу: калі адзін з маіх байцоў пайшоў у вёску і папрасіў там гарэлкі, то адседзеў за гэта пяць сутак. Калі эскадрон уваходзіў у вёску, людзі ведалі, што зброя скіраваная не супраць іх, а толькі на праціўніка».*

Светлая мэта — незалежная беларуская дзяржава — засталася для таго пакалення патрыётаў недасягальнай марай. Замест таго, каб стаць гаспадарамі на сваёй зямлі, яны вымушаныя былі шукаць паратунку.

### Эміграцыя

*«За восем дзён да таго, як бальшавікі занялі Навагрудак, я склікаў сваіх хлопцаў і сказаў: «Невядома, што нас чакае, калі пойдзем на Захад. Але вядома, што будзе, калі застанемся тут. Кожны мае выбар». Некаторыя засталіся, некаторыя пайшлі са мной».*

Рагулёўцы апынуліся ў амерыканскай зоне, дзе да іх ставіліся наогул нядрэнна. Аднак саюзнікі глядзелі на ўсё амерыканскімі вачыма і не разумелі, як гэта ў СССР можа існаваць таталітарны рэжым. Яны надзвычай сур'ёзна перапытвалі Барыса Рагулю: «Калі вам не падабаецца Сталін, дык чаму вы яго не зменіце?» Нядзіўна, што амерыканскі бок згадзіўся перадаць беларусаў савецкай уладзе. Аднак Рагуля папярэдне атрымаў гэтую інфармацыю і паспеў... так, наладзіць чарговыя ўцёкі. Таму, калі камуністы прыехалі забіраць іх, то знайшлі ў адпаведным бараку толькі французскую прастытутку.

Першыя пасляваенныя гады прайшлі для Рагулі ў вучобе ды змаганні. Ён браў удзел у распрацоўцы плана дэсанту беларускага батальёна на тэрыторыю БССР у выпадку вайны. У выніку гэтага праекта амерыканцы скарысталі тых людзей, што заявілі пра жаданне весці падпольную працу на Бацькаўшчыне. Сярод іх быў і добра вядомы Янка Філістовіч.

*«Філістовіч быў незвычайны чалавек. Ён перажываў, што ён жыве на чужыне, а на Беларусі людзі церпяць. Дазнаўся, што ў нас такі праект ёсць, і заявіў, што хоча ісці цяпер, а не чакаць. Я адгаворваў яго, бо ведаў, што ён ідзе на смерць. Я не быў прыхільнікам гэтага плана, бо ведаў, што сярод амерыканцаў ёсць савецкія «краты». Так яно і было, бо тых, хто дэсантаваўся на планаванае месца, ужо чакалі савецкія спецслужбы. А тыя, каго памылкова скінулі ў іншых месцах, пратрымаліся значна больш час.*

*Задача перад гэтымі людзьмі стаяла такая: каб ні кроплі беларускай крыві не было праліта. Каб вас не абвінавачвалі, што вы прыйшлі як забойцы губіць людзей. Ім загадалі проста знаходзіцца там і чакаць свайго часу. Калі б была сотня такіх людзей у Мінску ў 1991 годзе, сёння была б незалежнасць».*

Падчас працы над гэтым праектам стасункі ў Рагулі з амерыканцамі сапсаваліся, і ён эміграваў у Канаду, дзе з 1956 года мае медыцынскую практыку. Камандзір Навагрудскага эскадрона паспяхова займаўся ранняй дыягностыкай рака і нават быў абраны прэзідэнтам Лонданскай медычнай акадэміі (маецца на ўвазе канадскі горад Лондан). Але грамадскую дзейнасць ён таксама не спыняў і паспеў яшчэ паўдзельнічаць у барацьбе за канадскую сымболіку — знакаміты «кляновы ліст». На радзіме ж ён па-ранейшаму застаецца персонай нон-грата. Цяперашнія ўлады па-свойму высока ацэньваюць яго ролю ў змаганні за Беларусь.

Доктар Барыс Рагуля мае трох сыноў, двое з якіх таксама працуюць лекарамі, дачку, настаўніцу французскай мовы ў гімназіі ў Квэбеку, і восем унукаў. Нягледзячы на ўзрост, ён па-ранейшаму актыўна займаецца справамі Рады БНР, дзе займае пасаду намесніка старшыні.

Паведамляючы гэтыя біяграфічныя звесткі, я наўмысна скончваю сваё апавяданне пра гэтага чалавека без усялякіх высноў, бо прыклад Рагулі яшчэ будзе прадметам гутаркі ў наступным артыкуле цыкла. Тым часам на падставе ўжо вядомай інфармацыі кожны мае магчымасць вызначыць для сябе: хто ён, Барыс Рагуля.

**Аляксандр СТАРЫКЕВІЧ**

